Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана нумару 20 гр.

№ 5. Вільня 10 Ліпня 1934 г. Год I.

# АСВА

Рэдакцыя і адміністрацыя
WILNO,
ul. S.S. Miłosierdzia Nr. 18 m. 5.

Прэнумэрата: у год 4 зл.
у поў года 2 зл.

ДВУТЫДНЕВІК ГРАМАДЗКАГА ГУМАРУ і САТЫРЫ.




**1. 2.** — Калі на канферэнцыях аб разбраенні гаворацца антызбраенёвыя мовы, у той час капіталісты ўсяго свету ўзбройваюцца: выдумляюць новыя атрутныя газы, будуюць бронецягнікі, самалёты, ваенныя караблі; душачыся ў крызісе яны гатуюцца да новага падзелу свету ўпершую чаргу коштам Сов. Саюза

**3.** — Галоўным „дзеючым вульканам" з'яўляецца Гітлер, які з дапамогай сусветнага капіталу ўвёў у Нямеччыне фашызм, душачы рабочых і сялян і кідаючы лепшых сыноў іх за краты і ў канцлягеры.

**4.** — А там! На Далёкім Усходзе, у Манджурыі граюць ужо гарматы японскіх імпер'ялістаў, ліецца кроў кітайскіх селян і рабочых. Японскія імпер'ялістычныя сабакі шукаюць сабе спульніка, нюхаючысь з Гітлерам, каб напасці на Совецкі Саюз.

**5.** — У гэтым годзе ў Парыжы склікаецца міжнародных антываенны жаночы кангрэс, мэтай каторага з'яўляецца барацьба з падрыхтоўкай да вайны і супроць фашызма.

## „Асва“ гаворыць! Шапку зняць,

**Ды рот раззявіў не трымаць! На вус круці, што тут чуваць, каб іншым мог-бы расказаць.**

Перадамной ці лепей перад намі запоўнена дробнымі радкамі „Бел. Крыніца“ орган Бел. хрысціянскіх дэмакратаў і „Kurjer Wileński“ орган незалежна-залежных ахлапаў, так звана вольных дэмакратаў. Аб вартасці гэтага другога няма сумліву ніякога, — ён гэта сусветная дэмакрацыя, дзе падняволена кожная нацыя; галоўны конік — шавінізм і мэта — знішчыць комунізм. Ну, а белхадэцыяда комуны баіцца горай гада; былі разогнаны іх „рады“ і не куды ім ткнуць пароды, бо не даб'ешся там да ўлады.

Хадэкі Гітлера чакаюць, хоць „Kurjer“ нібы яго лаець і як умее праклінаець. На ўсё сваю знароўку маюць — і скуру ўласну абараняюць. Хадэкі цешацца праз Deutschland, а Гітлер сунецца праз Poland, на Усход праз Гданск і проста праз Паможа — ніяка просьба не паможа; нямецкі фашызм азвярэлы сялян рабочых душыць будзе, як буйвал дзікі, ашалелы. На Усход ісці яны ахвочы, бо моц Советаў ім коліць вочы. І хоць не зараз, не цяпер Украіну змерыць, змерыць землямер і „хутар“ для „спульніка“ дасць, а „спульнік“ бліжай што аддасць.

А блёк дзяржаў панадбаўтыцкіх, дык то ні больш, як пыцкі, мыцкі. Варона вока не выб'е вороне, — спаганяць будуць на нашым загоне.

Аб голадзе нароўні пішуць, што ў камітэтах „шмат даюць“, каб ім кішкі павярнула, што так безсаромна маняць. Падаткі вялікія „толькі“ ў двары, а вёска — чорт яе бяры. Хадэкі Вільню прадаюць, а „Słowa“, „Kurjer“ не даюць.

Вайна хадэкаў, „Słowa“ вабіць і ўсё галоўкі сваё гладзяць. Ага! Яшчэ, каб не забыць, нам варагоў трэба прыкрыць: такія „Słowy“ і „Шляхі“, „Dziennik Wileński“ і „Краі“, „Vilnius Rytojus“ і Б. Х. Д. і Б. ІГК і ТБА і БНК і Казіміра прысвятога, на гэным свеце смецця многа. З пад знаку лютага ворага, што ў масках добрых „проціў газовых“ усе супроць абарон людовых; яны і пішуць, і пяюць, і сварацца і разам п'юць, каб толькі люд той атуманіць і як найболей апаганіць.

„Шляхі“ ўсцяж розныя к нам пруць — адзін хваліць, другі ганіць, каб глыбей у сэрца раніць. Вось і кончыць ужо „Асва“, вы-ж слухалі не дарма. „Асвянята“ — чытачы гаварыце-жа і Вы, Вас Рэдакц'я запрашае і фэльетончыкі чакае. Хай не страша Вас адлегласць і нясіце к нам належнасць. Разпісалась я оёй, дык ляціце-ж к нам гурбой.

КВЯЛЮК.

## Паміж тэбэшоуцамі.

17 чэрвеня у г. Вільні меў адбыцца агульны сход Т.Б Ш. як падаюць газеты сход у апошнюю хвіліну быў забаронены уладамі. Паводле вестак дадатковых большасць дэлегатаў пры уваходзе у лёкаль, дзе меў адбыцца сход, былі затрыманы паліцыяй на два, тры дні.




1. — Ці заапекавалася быўшая Галоў Управа дэлегатамі на з'езд Т.Б Ш ў Вільні.

2. — А якжа!.. ўсім дадзены ўрадовыя памешканні і дармовае харчаванне у цэнтралцы на два, тры дні

## ПРАПАНУЮ.

„Беларуская Крыніца“,
Й санацыйны „Родны Край“,
Гэта панскія званніцы
Люд працоўны памятай.
Не пускай на паўпарога,
У хату гэтай смярдзюхі,
Абяцаюць яны многа,
Выціскаючы духі.

Землю, волю і культуру,
Незалежнасць панскую,
Каб сцябаць мацней у скуру
Работніцка селянскую.
Ды злажыў хамут на шыю,
Працягнуць свой сыты век,
Ты-ж лупі й далей мякіну
Цяжкай працы чалавек.

Беларус малы й вялікі,
У мазалёх калі рука
„Родны Край“, „Крыніцу“ выкінь,
Нашай будзе хай „АСВА“.
Яна йдзе працоўным шляхам,
Жаліць здраду на ляту,
Насмяешся з ёй са смакам,
Дык выпісвай, брат, „АСВУ“.

М. Асот.

# Пра кангрэс.




Па ініцыятыве працоўных Зах. Украіны ў бліжэйшы час склікаецца рабоча-сялянскі кангрэс

Гэты кангрэс з'явіцца выразам адзінства працоўных усіх нацыянальнасцяў, умацуе іх шэрагі ў барацьбе з фашызмам і нацыянальным уціскам. Цяпер ужо шырака разгортваецца падрыхтоўка да кангрэса. Гэтая падрыхтоўка паказвае гатоўнасць працоўных самаахвярна змагацца з фашызмам, з соцыял-фашыстамі, як украінскімі, так і беларускімі і інш, якія носяцца з планамі, як дапамагчы імперыялістам захапіць Сов. Украіну і яшчэ мацней уціскаць працоўных.

Як працоўныя адносяцца да чынаў гэтых паноў фашыстаў і іх гаспадароў, паказваем вышэй на малюнку.

Працоўныя умеюць даць такі адпор, каб не толькі не было павабна падобным панам соваць сваё рыла ў працоўны агарод, але каб рыла гэтага свайго яны не далічвала.

## З фашыцкай Нямеччыны.




Старая прыказка гаворыць, што сваяк сваяка пазнае з далека. Глянце на малюнак і вы ў гэтым упэўнецеся. Гэтыя сваякі не забываюць заслуг адзін другога. У абодвых рукі ў крыві хаця для людзкіх вачэй яны якбы і хрукаюць адзін на другога, але на справе знюхаліся і ўпэўніліся, што, свае.

Абодвы майстры ўладаць гумовымі дубінкамі і бразгаць ключамі ад турэмных брам.

Хто яны — вы ведаеце. Напамінаем — гэта фашысты і іх соцыялродзічы — ну як бы ў нас ППС ці Бунд.

Няма чаго казаць — у гэтых паноў вялікія заслугі і аб гэтых заслугах ведае і памятае працоўны люд, лепшыя сыны каторага пасаджаны за краты. Не можна і пералічыць усіх блізкіх, родных імён, якія пазбаўлены волі і сярод іх найбольш светлае імя, імя гонару рабочых Нямеччыны, імя іх дарагога правадыра Тэльмана. З вуснаў у вусны па гарадох і вёсках усяго свету пераходзіць гэтае імя, увасабляючае ў сябе лепшых сыноў працоўных, закутых у кайданы, кінутых у лёхі, загнаных у канцлагеры.

У той час, як гітлероўцы рыхтуюць яму плаху, працоўныя становяцца сцяной у абарону. Чэсныя інтэлігенты, пісменнікі, дзесяткі адвакатаў разам з мільёнамі сталі ў рады абаронцаў Тэльмана.

Разам з імі і наш асвіны рой гудзе пратэстам, нагострыў сваё джала супроць азвярэлых фашыцкіх катаў, заве ўсіх нашых прыяцеляў яшчэ мацней узняць голас пратэсту, дабіцца волі Тэльману і ўсім сказаным сыном працоўных.

## Семянчук.

Стаў неяк „добрым“ Семянчук
І тыдзень жабракоў ён не чураўся
Пагарда знікла да мужыцкіх рук
Пакуль у войты не папаўся.
Вялікім панам сёння стаў
Не скінеш шапкі,—дасць вымову;
Ад нас як і раней ён адышоў,
Забыў знаёмую нам мову.
Не нашым Семянчук быў чалавек...
Таму стаў „жондцам“ нашай гміны;
На ўсіх крычыць, крычыць „авэк“
І строіць з нас—сялянства кпіны.

„Волпа“—С. Шыр Шлях.



# ЛЯВОНАЎ ГОСЦЬ.

Увага! увага.. грамадзяне і грамадзяначкі... У—ва—а—га—а!!!

Тлум бушаваў, рагатаў, выкрыкваў, як цёмны бор у непагоду, стогнучы гнуўся і рэхам нёс у далячыню трэск надломаных хвой.

— Чаго там увага, моташна жыць!..

— Сеяць не маем чым...

— Пашы нямашака...

— Мае дзеці пухнуць з голаду! тонкім галаском пішчала жанчына.

— За зельіну мяне зацягнулі на двор і аштрафавалі на сто залаташнікаў... махаючы рукамі, падняўшы кашлатую бародку ўгору, крычаў селянін.

Да стала падыходзіў чалавечына... адразу заўважылі, што не свае гадоўлі хоць і ў пасталох ды іншым селянскім убранні... Аглядзелі яго з ног да галавы і з галавы да ног... усюду поўна, у нагавіцах поўна, за каўнерам поўна, а пад зрэбнаю сарочкаю, як у кормнага... звісала чэрава... Супакойваючыся ўздыхнулі селяне, заканчваючы бурны прыліў ціхім шапатлівым адкатам...

— Нейкі пан нарочыта перапрануўся...

— Глянька, глянька,—з кывоцікам...

— Дзівіся, як ён пасталы абуў: правы на левую, а левы на правую... хі.. хі... хі..

— Тварык чысценкі.. ручкі... пераглядаліся дзяўчата

— Будзь пэўны, гэты крапівы ня есць, басіў высокі, гадоў трыццаці дзяцюк.

— Цішэй! годзі, супакойцеся... крычаў з за стала прыземісты, барадаты Лявон адзін з багатых мужыкоў вёскі. Гоман патроху сціхаў. Лявон, расправіўшы бараду і вусы, як на свята ўрачыста абвяшчаў:

— Паважаныя грамадзяне, да нас завітаў аж з самага цэнтру, можна сказаць, гэта значыцца з Вільні, адзін з выдатнейшых прадстаўнікоў... ну як яе гэтае.. самае.. Беларускае Нацыянальнае.. Сябрыні і самы што ні ёсць жывы ўдзельнік, так сказаць, творца газеты „Беларусь Працы“. Па—па—а—ан, цьфу, грамадзянін пан Падшывайла... ён... ён і хоча з намі падушам пагутарыць.

— Дык чаго гэты самы Падшывайла прышоў да нас няхай бы ён з вамі і гутарыў... бубніў пад нос Піліп, якому таўкнуў у бок Макар, кажучы:

— Ціха, хай гавора, даведаемся, што гэта там за сябрыня ўтварылася.

— Чаго там даведвацца, не бачыш якая хэўра сабралася. альбо не відаць, як яму падміргваець Лявон.

Рыбак рыбака пазнае здалёка, умяшаўся маладзы хлапец Юстын. Паглядаючы на Падшывайлу селяне закурвалі..

— Слова мае наш паважаны госць, уклонам закончыў гэтыя словы Лявон, даўшы знак рукою, каб панок гаварыў. Той дастаў з за пазухі пачку газет, абвёў усіх склізкім, як смоўж поглядам і пачаў:

— Паважаныя грамадзяне! Я прыехаў да вас ад нашае партыі — Беларускае Нацыяналістычнае Сябрыні і ад газеты „Беларусь Працы“. На мяне ўзложаны пачэсны абавязак прышчапіць вам усім, тыя агульна чалавечыя ідэалы за якія мы мужна стаімо і будзем стаяць, аж да пера могі. Навярнуць вас на шлях нацыянальнае, культурнае, пазытыўнае працы... У грамадзе заварушыліся.




— Ты чуеш, што кажа, хоча прышчапіць мне і табе свае ідалы каб яшчэ мацней навярнуць галаву ў хамут,—шаптаў суседзям Піліп.

— Ох і навярнуў бы я гэтага панка, сціскаў кулак дзед Якуб.

— Піліп не наводзь там беспарадку,—дайце чалавеку гаварыць..

— Мне што, хай гавора, ад гэтага маё непасеянае жыта не вырасце і папар без каня не загорыцца, а для вас дзядзька Лявон гэта карысны дождж.

— Добра, добра аб гэтым потым... гаварэце далей...

— Дык за што-ж мы змагаемся — скінуўшы світку, пачаў смялей Падшывайла — Наш ідэал — Незалежнасць Беларусі; вызваленне яе з пад Чырвонае Масквы і розных Чырвоных агентаў. Народ беларускі адзін, ён у весь працоўны; у нас няма багатых, мы ўсе роўныя, як з кулямёта выпаліў панок..

— Ну й лжэ,.. мы ўсе роўныя; Лявон і я роўныя, у яго 40 га зямлі, а ў мяне паўтары; я хлеба ад Піліпаўкі не бачу, а ён ім свіней корміць і роўныя..

— Што ён там меле...

— Цішэй хлопцы, дайце гаварыць, буркнуў Янка Абзіралкін, сваяк Лявона.

— Я кажу грамадзяне, беларускі народ не мае класаў, — іх штучна хочуць насадзіць Маскоўскія агенты.

Мы адна суцэльная беларуская сямейка. Нашым галоўным ворагам з'яўляецца—маскаль... Каб дасягнуць пастаўленых мэт. мы тут на Заходняй Беларусі ставім галоўную задачу Нацыянальнага Культурнага Адбудавання...

— А ў БССР якую вы ставіце перад сабою задачу? раскажэце паночку аб гэтым, дамагаўся Юстын..

— Пра БССР я... я потым скажу.

— Не, зараз давайце.

— Кажэце пра БССР..

— Што там хочаце рабіць?

— Там... ну што-ж там перад кожным свядомым грамадзянінам мы ставім задачу зрываць Сацыялістычнае Будаўніцтва; псаваць машыны, паліць заводы, рваць масты, развальваць колгасы ну і гэдак далей...

— Вон што, хто вы такі, мы такі адразу хоць і ў нашую кашулю дзядзечка ты залез, а

пазналі, што не нашае гадоўлі і духу чалавек... Селяне будуюць калгасы, а ён развальвацъ.

— Замоўкні Агата, а то так мы ніколі не скончым, злосна баўбатаў Лявон, а панок цягнуў далей.

— Перш трэба выйсці з цемры, а потым будзем змагацца з капіталістамі за... за сацыялізм...

Дым паднімаўся пад столь; у вакно ўрываўся сірэнявы вясенні вецер, калашмаціў яго хвалямі, гонячы па хаце... Больш сотні пар воч з пад лоба пазіралі на моўцу, які, распінаючыся галасіў:

— А сёння мы кажам годзі енкаў, годзі нараканняў і бедаванняў, якія я чую тут і ўсюды, што не даюць працаваць, што садзяць у турму і. г. д. Дзяржава слушна робіць, калі карае за „вывратовыя" выступленні. Трэба падпарадкавац-



ца лёсу; выкінуць чырвоных агентаў і ўзяцца за пазытыўную культурна асветную працу ў барацьбе з цемраю. Для гэтага мы склалі „пяцігодку" культурнага адбудавання... Ен хутка разгарнуў „Беларусь Працы" № № 2, 3, 4 і пачаў зачытваць пункты „пяцігодкі" .. Чытаў і растлумачваў, што кожная вёска павінна скласці сваю двугодку за якую моладзь абявязкова вывучвае нацыянальныя і рэлігійныя гімны, агульна ведамыя беларускія песні, вучыцца скакаць свае нацыянальныя беларускія танцы, Лявоніху, Юрку і іншыя. Актыў навёртвае вёску да свае нацыянальнае вопраткі— вышываных кашуль, паясоў спадніц, сярмяг і т д. Уся гэтая праца праходзіць ў ударным тэмпе; вёска з вёскаю; гміна з гмінаю праводзяць сараўнаванне, хто лепш і больш зробіць...

Тут грамада не вытрымала, трэснулі ставы, гнеў і галодная злосць як хвалі бушуючага мора з брызгамі, равам і рогатам б'юць аб берагі, так і тут праз дым пакацілася туды.. на покуць, дзе сядзеў Лявон і збянтэжана стаяў. не чакаўшы такога выніку, паніч А ў хаце раўло, гікала, мяшалася адно з адным, праз вокна беглі выкрыкі:

— Годзі байкі нам тут разказваць .. Кацецеся ад гэтуль к мацяры...

— Мы галодныя, есці хочам ..

— Скажы за сколькі ты чалавеча брэшаш ?!

— Ці не паслаў цябе пан Луцкевіч ?!

— Выгнаць яго хлопцы з сяла!

— Прышчапіць, яму ў сківаду.

— Каго навертваць прыйшоў, ахратка ты нац-дэмаўскся?

— Змусіць яго скакаць Лявоніху і Юрку... Лявон, Абдзіралкін, Задзяры —Хвост хацелі спыніць ледаход, памагчы выйсці з дрэннае сітуацыі Падшывайле, але дарэмна, — халодны гнеў каціўся і каціўся, ён вынес на сабе цётку Алёну, якая крычала перад самым носам панка:

— Сына майго ганіць прыехаў.. нашых брыдзіць; нагаварваць, каб мы назаўсёды засталі ў сярмязе, а вы ўшаўках хадзілі... Кажаш добра, што маю Ганульку ў турму насадзілі, ах, ты валацуж нік ты гэдакі... бач морду якую ад'еў, жывот выгадаваў, а ў мяне адна скура ды косці засталіся .. Не верыш? На вось падзівіся і яна, падняўшы спадніцу шлёпнула рукою па сухому кумпяку... Мужыкі з хлопцамі рагаталі, дзяўчаты, хіхікаючы адварачвалі галовы ў бок

— Так, так цётка Алёна дай яму, падзадарваў Юстын... Потым раптам стала ціха, слова ўзяў Піліп, ён гаварыў зусім спакойна:

— Мы браты тут выслухалі гэтага пана, прачыталі яго газеціну і адразу добра зразумелі, што гэта не нашы людзі, што ён гэты панок з сваёю газетаю і Сябрынёю вылезьлі з пад тае самае каровы, што і Луцкевіч і кс Станкевіч; усе яны кормяцца „малаком" з аднаго вымя і ідуць да свае мэты.. Супраць нас, лаюць Советы, затое хваляць контраў у Совецкай Беларусі . Не падарозе нам з імі.. Я вось браткі, такое думкі, каб гэты Падшывайла з сваёю газецінаю да вечара з нашае вёскі вышыўся, а калі ён гэтага не выканае, дык мы яму прыпішам такую „нацыянальную адбудову", што век не забудзе..

— Правільна.

— Памялом вымесці ..

— Адчынеце яму дзверы...




— Пецька! Жука спусці, хай разуе яго ... Падшывайла ішоў да дзвярэй, за ім Лявон, Абдзікін, Задзяры-Хвост і яшчэ некалькі багачоў, якія прабавалі агрызацца да грамады.

Сонца хавалася за высокі бор Селяне разышоўшыся, групамі стаялі кала хат гутарылі аб сваіх злыбедах. У хаце Лявона пад шум самавара, Падшывайла правозіў нараду свайго актыву гаворачы ім:

— Усе тут у вас чырвоныя агенты іх неабходна выгнаць з вёскі і тую старую, што жывот




мне паказала гэта настаяшчая „бальшавічка" .. Мы сябры не затрымаемся, пройдзем каля тысяч стогнучых енчучых жабракоў і з вамі сотнямі

# Беларускім панам.

Надзвычайнае што та сталася,
Паноў тлустых раць уся сабралася,
І хадэкі тут і санацыя,
Беларусаед і Нацкамітэм,
Тут „Скарынія“, „Шляхі моладзі“
Ой гудуць шумяць, як у голадзе,
Яны слухаюць Я. Станкевіча,
Каб пратэст паслаць Тарашкевічу,
Цішцы Гартнаму, Купале, Коласу
Крычаць тоўстыя, што ёсць голасу:
— „Мову родную беларускую,
Замянілі там на чужацкую,
На чырвоную, ды на рускую, —
Зніштажаюць культуру брацкую“,

Так галосяць яны надрываюцца,
Над рэформаю насмехаюцца,
Хочуць нас абдурыць сваім голасам,
Верым мы братом, верым Коласам.
Што без мягкага знаку, белым будзе снег,
А рэформай паноў раздушылі ў гарэх,
Паляцелі ў трубу вы з „ахраткамі“,
„Бубурамі“, „гукніцамі“ „блехамі“,
Ды на сметніках трасе задкамі
Пад чужацка — панскімі стрэхамі.

Ой не міла вам, што рагоча люд,
Што вучоных яго рацi стройна й дуць
Грамадзе дарагой, мову жыцця нясуць,
А пра шчасце іх лічбы громка пяюць.
Надзвычайнае верым сталася,
Вясна здраднікаў адсмяялася,
Крыкам, гоманам не здушыць размах,
Што нясе дла вас пяруністы страх.

М. Асот.

пайдзем на перад на барацьбу з цемраю і Чырвонаю Масквою.

— Я іх прыцісну — выдушваў адкуль - то далё к словы — прыцісну, будуць скакаць у мяне, як скакалі заўсёды. За хлебцам прыдуць, за бульбачкай прыдуць... усё прыпомню. Я пакажу бунтаваць, скуру злуплю на восені; за пудзік нясі, два ды адработай лета... Так іх трэба...

— Гэтае быдла трэ трымаць у рукох — паддакваў Лявону Задзяры - Хвост.—Мы ім пакажам

— Будзце спакойны, пане Падшывайла, — запэўняў яго Абдзіралкін — Свой доўг ведаем... і выканаем... Пастарунак недалёка... Ды і з дэфай знаёмства маем..

Лявон паганяў каня; каля весяніц стаялі селяне, яны бачылі, як на пярэстай радзюсцы сядзеў Падшывайла ў капялюшы і чорным паліто.

Ноч акутвала вёску; ціха шумеў высокі гай, а ў хатах трашчала лучына, кідаючы чырвоныя праменні, свету ў вокны...



# Казачка пра двух вепрукоў.




Раскажу я вам, браточкі, мае казачку, ды незвычайную пра двух вепручкоў.

Жыў быў у Вільні вялікі пан. Вось і захацеў ён купіць вепрукоў. А грошы шмат меў, дык і купіў пародзістых. Адзін з іх быў рыжавусы, ды трошку падслепаваты — акуляры, бач насіў, а другі лысы і чорненькі. Культурныя абодвы былі чэрці. Не шкадаваў для іх пан грошы... Набудаваў ім карытцаў розных.. Хай растуць, гадуюцца. Дык здарылася аднойчы няшчасце: пасварыліся вепручкі за карытца, ды давай адзін дгугога за валасы цягаць і памыямі абліваццa. З гэтага часу няма між імі згоды, а за што? — за карытца, браткі мае, толькі за карытца пасварыліся яны. Але нічога, — гаспадар дасць ім пугі і яны паслухмяна будуць спажываць з таго карыта, якое выгадна гаспадару.



# Беластоцкае прывітанне

Вам дарагім барацьбітам,
Хто незломную волю сваю,
Аддае, каб працоўным сяўбітам,
Прынясці залатую вясну.

Тым, хто рашуча і смела,
Раскрываюць здраднікаў план,
Хто за наша працоўнае дзела...
Не па густу Астроўскім панам.

Тым, што без страху стаяць,
На варце вялікіх мэт
Беластоцкіх работнікаў раць
Шлюць бадзёры і палкі прывет.

Слава Вам, хто у нашы куты,
Сноп прамення агністы кіруе,
Рознай масці сядзяць дзе плуты
І адвечная цемра пануе.

Гэй, жадаем Вам шчырае працы,
З Вамі разам шагаем і мы,
Каб з падвалаў выйсці ў палацы
І зажыць, як не жылі дзяды.

Беларуская рабочая літсэкцыя
пры Т. Б. Ш.






У ПОЛЬШЧЫ.

У Польшчы знаходзіцца цяпер 8,000 беззработных вучыцеляў.

Уздоўж тракта Несвіж-Клецк будуецца бруковая дарога. Будоўля праводзіцца ва ўдарным тэмпе.

Большасць тэкстыльных фабрык у Польшчы рэдукуе лічбу рабочых гадзін на летні час Некатарыя шалковыя фабрыкі будуць зачынены зусім.

Распараджэннем прэзыдэнта Масціцкага ад 17 чэрвеня ўводзяцца ў Польшчы концэнтрацыённыя лагеры для асоб пагражаючых грамадскаму ладу.

У чэрвені ў Варшаву прыяжджаў нямецкі міністар Геббельс.

Паміж Польшчай і СССР вядуцца перагаворы аб дастаўцы ў СССР машын для совецкіх металургічных фабрык.

На ЗАХ. БЕЛАРУСІ.

13 чэрвеня ў Вільні паліцыя зачыніла адзел польскіх нацыянаў-сопыялістаў.

У Косаўскім павеце на Палессі ўзнікла эпідэмія тыфусу. У аднэй з вёсак хварэе болей чым 20 сем'яў.

Назначаны на 17 чэрвеня ў Вілні з'езд Т.Б.Ш. не адбыўся, бо ў астатняй хвіліне прышла забарона. Частка дэлегатаў арыштавана і па пару днях выпушчана на волю.

З-ЗА МЯЖЫ.

У Парыжы арганізавана „міжнародная праўная камісія“ у складзе 9 асоб з мэтай дагляду за ходам працэсса правадыра нямецкіх комуністаў Тэльмана. Абараняць яго маюць гатоўнасць 27 французскіх адвакатаў, 13 — англійскіх, 8—чэхаславацкіх, 4—бельгійскіх, 6 галландскіх, 3—гішпанскіх, 9—швайцарскіх і 32 балгарскіх.

У Манджуры ўзбунтаваўся атрад войска ў мясцовасці Ашыго і злучыўся з партызанамі.

Парыж май. У дэпартамэнце Сены адбыліся крывавыя сутычкі паміж комуністычнымі і соцыялістычнымі рабочымі з аднаго боку і фашыстамі з другога. Дэманстранты ўзнасілі антыфашыстоўскія лозунгі. Паліцыя хацела разагнаць дэманстрантаў, але апошнія збудавалі барыкады. На помач паліцыі прышла жандармэрыя, а за тым да іх прыпрылучыліся на помач фашысты. У выніку сутычкі забіты адзін. 16 г. комсамолец і ранена некалькі комуністаў. Паліцыя зрабіла шмат арэштаў.

У Грэцыі ў г. Каламаце ўзнікла паміж паліцыяй і страйкуючымі возчыкамі сутычка. 7 работнікаў забіта і 25 ранена. Страйкуючыя карыстаюцца падтрыманнем насельніцтва.

У шмат якіх раёнах Паўночнай Амерыкі засуха знішчыла пасевы пшаніцы. Ураджай мае быць два разы меншы чым у мінулым годзе.

У чэрвені ў Арктыку выйшлі совецкія караблі паўночна-ўсходняй экспедыцыі. Экспедыцыя выканае шэраг навукова - даследчых нагляданняў.

Засуха ў Чэхаславакіі пагражае знішчэнню усіх пасеваў.

У Румыніі шырацца пажары, прычынай катарых з'яўлаецца засуха. Спаліўся напалову г. Бузеў. Румыніі пагражае голад.

Прага. З лагера ў Брно выключаны 48 „шуцбундаўцаў“, выступаўшых супроць сацыяўдэмократычнага кіраўніцтва. Паліцыя арыштавала шуцбундаўца Майзэля—выступаўшага ў баёх у Вене. Майзэль вёў агітацыю сярод „шуцбундаўцаў“ за пераход у комуністычную партыю.

У СССР за існаванне Совецкай улады выпушчана 15 мільярдаў кніжак на розных мовах.

Дольфус мае павялічыць лічбу паліцыі і жандармэрыі, У Вене будзе 6.400 паліцыянтаў, а ва ўсёй Аўстрыі 10 000.

У СССР у чэрвені прыбыла новая партыя шуцбундаўцаў у ліку 230 чалавек, прыймаўшых удзел у Венскіх баёх. Ім было згатавана ўрачыстае спатканне.

У Аўстраліі пачалі будаваць дарогі з авечае шэрсці, а людзі не маюць вопраткі.

Італія будуе два новыя браненосцы ў 35 тысяч тон кожны.

У Малазе (Гішпанія) 16 чэрвеня абвешчана агульная забастоўка ў знак солідарнасьці з сельска-гаспадарчымі рабочымі.

У Паўн. Амерыцы партовыя рабочыя на беразе Ціхага Акеяна застрайкавалі. Усяго страйкуе болей як 25.000 чалавек.

Ц.К.К.П. (б) Б. пастанавіў выдаць Беларускую совецкую энцыклопедыю.

У Берліне 17 чэрвеня пачаўся працэс 80 комуністаў, абвіненых у арганізацыі „Чырвонай Абароны“.

Па даным статыстычным на 10 чэрвеня яравы план пасева ў СССР выпаўнен на 100,4 прац Паўночны Каўказ і Паволжа перавысілі пасеўны план на 8 прац. Чакаецца небывалы ўраджай.

## Вершаваныя загадкі да чытачоў.

Каго людзі называюць
— Пахлебайла і лізун
Пальцам вочы вытыкаюць
Кажуць—панскі ты бізун?

Нашы хлопцы байкатуюць,
Дзяўчаты ў скокі не ідуць,
Калі, што яны пачуюць
Выйсці з хаты не дадуць?!

Рабочыя, селяне, працоўная інтэлігенцыя заклікаем усіх да супрацоўніцтва з намі—шліце фэльетоны, жарты, вершы, гумар, сатыру, пішэце як умееце — сароміцца няма чаго, бо „Асва“ аднясецца да Вас заўсёды шчыра і пільна. Будзем змагацца за паднясенне якасці! Карыкатурысты, шліце карыкатуры! Няхай жыве літэратурны фронт!

# ПІСЬМО З ДРЫСВЯТ.

## *Да паважанага Рэдактара „Асвы“*

***З выхадзм у свет „Асвы“ карыстаючыся, дзякуючы паважанаму Рэдактару з прысланых намяроу.***

Мы, работнікі м. Дрысвят добра ацаніўшы мэты „Асвы“ пасылаем гарачае прывітанне, жадаючы для беларускай „Асвы“, баронячай інтэрэсы рабочых гораду і вёскі, шчырага развіцця і якнайшырэйшага ўплыву; Маем надзею, што „Асва“ здолее з'яднаць усе работніцкія сілы ў адзін магутны шлях. Адначасна высылаем грошы і ветліва цросім паважаную Рэдакцыю аб зьмяшчэнні ніжэй паданага твору.

Подпісы.

АД РЭДАКЦЫІ. Колектыўныя пісьмы ад работнікаў вітаем заусёды горача і жадаем, каб пісем такіх было болей.

## Нашы жаданні.

Мы хочам жыць паміж народа, ня бача панскай ласкі, здзек.
А бачыць праўду прад вачыма, і працаваць, як чалавек,
І дасягнуць мы гэта зможам, паўстаўшы дружна ўсе ў рады.
Тады пакажам усяму свету чаго жадаюць батракі,
Жадаюць жыць на белым свеце, каб меў бы кожны ў руцэ хлеб
І, каб звольніць усіх ад путаў ці гэта будзе сын ці дзед.
Нам баюць байкі на гэтым свеце каб мы баяліся чарта,
А гэта рабіцца на тое каб далей піць кроў з мужыка.
Даволі нам хлусніць няпраўду, рабочы сведам ужо народ
І верай цвёрдай у перамогу мы йдзем і будзем йсці ўпярод.

м Дрысвяты. Група работнікаў.

---

## Добра робім.

„Беларусь Працы“ — Найвялікшым праступкам павінна лічыцца нішчэнне беларускае газеты пасля яе прачытання.

Селянін. — А што Янку мы добра робім, калі ўсе нацыянал-фашыстоўскія газеты нішчым яшчэ да чытання.

---

З матэр'яльных прычын „Асва“ доўгі час не магла выходзіць. Рабочыя, селяне і працоўная інтэлігенцыя да Вас звяртаецца рэдакцыя „Асва“! Усе каму дорага „Асва“, баронючая інтэрэсы працоўных паспяшыце к нам з матэр'яльнай дапамогай: пашырайце „Асву“, вербуйце падпішчыкаў, збірайце прэсавы фонд. Верым, што асвіны рой горача адклікнецца на наш заклік і не пазволіць загінуць „Асве“.

---

## Паміж самагоншчыкамі.

І — Ну, як удалося выгнаць?
ІІ — Выгнаў.
І — А ці добрая вышла?
ІІ — О ёй! Проста спірт, а ты як?
І — Ведаеш, братка, няма з чаго гнаць, — гнаў, гнаў ды і хлеб увесь з хаты выгнаў.
ІІ — Э глупства гэта не цікава. Вось я дык выгнаў дзве тысячы...
І — Чаго? Літраў?
ІІ — Ды не, дзве тысячы злотых кары і паўгода вастрогу.

П. Граніт.

## Хутка расце.

— Ведаеш што Сымон—ў майго Андрэя падатку нейкага было ўсяго на 45 грошай, а цяпер солтыс прынес нейкую паперку ды за тую трэба аж паўтары залатоўкі заплаціць, а падатак асобна.

— Э, нічога дзіўнага... На паперы грошы растуць хутка

В. Струмень.

## ПОШТА.

Я. М—га (Сухары). Ваша пісьмо атрымалі. Просьбу Вашу споўнілі.

М. Асот. Творы Вашыя атрымалі. Вельмі дзякуем; з невялічкай пераробкай зьмяшчаем у гэтым нумары. Пішэце болей на тэмы грамадскія. Вазьмецеся за прозу.

П Граніт Тыя часопісі аб якіх Вы пытаецеся ўжо не выходзяць, а радактары іх шагаюць пяць крокаў уперад, пяць назад Дзе? Думаы, што Вам зразумела.

З матар'яла Вашага скарыстаем, пішэце болей прозай.

В Струмень. Патроху будзем выкарыстоўваць. Пішэце болей.

А—ч (Дрысвяты). Пісьмо зьмяшчаем, просьбу выпаўнім. Газету, якую б Вы хацелі пакуль няма.

А. Д. (Шэрэшув) Верш Ваш даволі слабы—напішэце лепей што небудзь з жыцця Вашай аколіцы.

Ант. Пашк—іч (Берасце). Просьбу Вашу споўнім. Што небудзь напішэце пра жыццё берасцейскіх рабочых.

Міхась Ліст. Па апрацоўпы частку матар'ялу скарыстаем. Высылаць „Асву“ будзем надалей.

Чарнабыль і А Чаромхін. Можа скарыстаем, працуйце болей над тэмай вершаў.

А. Дорожко Верш слабы, — пішэце лепш прозай.

Вышэмірскі. Газеты аб якіх Вы пытаецесь не выходзяць. Хочаце з намі супрацоўнічаць—вельмі добра! Не ведаеце як! Узяў ліст паперы, напісаў што небудзь і валяй на пошту ў Вільню.

М. Д. (Смургонь). Вельмі ўдзячны Вашаму запрошанню, — пастараюсь у хуткім часе быць, аб гэтым паведамлю. Матар'ялы будзем памалу выкарыстоўваць.

Квялюк. Два пісьма Вашых атрымалі. Здольнасць маеце. Пішэце надалей — болей прозай, сатырай, гумарам; толькі пашкадуйце рэдактара і пішэце яшчэ выразней, бо Вы яго змусіце насіць акуляры ды чаго добрага прыдзецца купляць мікраскоп, а грошы няма.

---

Рэдактар - выдавец: П. РАДЗЮК. Druk. Sp. Wytw. Handlowa, Trocka 7.

